№ 27 (3972)

7 красавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАЛІТКУХНЯ

## Караткевіч супраць Лябедзькі?

Як вядома, Партыя БНФ адмовілася ад ідэі вылучэння свайго кандыдата на будучых прэзідэнцкіх выбарах. Палітычная камісія партыі прыняла рашэнне падтрымаць прадстаўніцу кампаніі "Гавары праўду!" Таццяну Караткевіч.

Нагадаем, што раней рух "За свабоду!" абвясціў пра тое, што не будзе вылучаць на выбарах свайго кандыдата і нікога з кандыдатаў не падтрымае. Такім чынам, на дадзены момант дакладна вядома, што два апазіцыйныя палітыкі – старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і прадстаўніца кампаніі "Гавары праўду!" Таццяна Караткевіч – гатовы ўключыцца ў прэзідэнцкую гонку.

Таццяна Караткевіч – нібыта новы твар у палітыцы. Але твар амаль невядомы нават у вузкім апазіцыйным коле – што ўжо казаць пра шырокую грамадскасць. Адным словам, у апазіцыі шмат лідараў, але калі гаварыць пра патэнцыяльных кандыдатаў у прэзідэнты, то... няма з каго выбіраць.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ДАСЬЕ

## Хто такая Таццяна Караткевіч?

Нарадзілася ў 1977 годзе. Скончыла сярэднюю школу №62. Выпускніца факультэта псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М.Танка. Магістр псіхалогіі. Працавала выкладчыцай псіхалогіі ў ДІКСТ БДУ і БДПУ імя М.Танка. Загадвала аддзяленнем сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання Ленінскага раёна г.Мінска.

Сябра БСДП "Грамада". У кампаніі "Гавары праўду!" з мая 2010 года. На мінулых прэзідэнцкіх выбарах была даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева.

ТЫМ ЧАСАМ

## А што Някляеў?

На "круглым стале", прысвечаным неабходнасці дапамогі грамадзянам, якія падпадаюць пад катэгорыю "дзяцей вайны", Уладзімір Някляеў паведаміў: «Мы прыйшлі да высновы, што найлепшым варыянтам у сённяшніх няпростых умовах можа быць вылучэнне чалавека, які ўвасабляе жаданне міру. Мы падумалі, што Таццяна Караткевіч падыходзіць на гэтую ролю».

Такім чынам, Някляеў пацвердзіў свой няўдзел у прэзідэнцкіх выбарах. Дарэчы, саму сустрэчу, прысвечаную неабходнасці дапамогі «дзецям вайны», вяла Караткевіч, якая заняла месца на чале стала.

ВІЛЬНЮС–МІНСК

## Дык ці стане ЕГУ еўрапейска-беларускім універсітэтам?

***Новым рэктарам Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў Вільнюсе абраны прафесар Дэвід Полік, які да гэтага быў часовым выканаўцам абавязкаў рэктара.***



Кандыдатуру спадара Поліка ўхваліў агульны сход заснавальнікаў.

Паведамляецца, што продкі Поліка – выхадцы з Беларусі. Але сам ён не размаўляе ні па-беларуску, ні па-руску, а цяпер вывучае рускую мову (а чаму не беларускую?). Да ЕГУ Полік быў прэзідэнтам у чатырох амерыканскіх ВНУ: школе Чыкагскага інстытута мастацтваў, каледжы Лебанон-Вэлі, Бірмінгемскім паўднёвым каледжы і Дзяржаўным універсітэце Нью-Ёрка (аддзяленне ў Кортландзе). Ён таксама працаваў дэканам факультэта мастацтваў і навук і дацэнтам філасофіі ў Сіэтлскім універсітэце ў Вашынгтоне.

На пасаду рэктара ЕГУ таксама прэтэндавалі прафесар ЕГУ **Таццяна Шчытцова,** лідар руху „За Свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч,** гісторык **Алесь Краўцэвіч,** а таксама грамадзяне ЗША прарэктар па развіцці і камунікацыі ЕГУ **Дарыюс Удрыс** і дырэктар офіса Інстытута міжнароднай адукацыі ў Маскве **Эдвард Рослаф.** Нагадаем, што і ў Беларусі, і ў Літве была арганізавана маштабная грамадская кампанія, накіраваная на тое, каб ЕГУ, які ў свой час "эміграваў" з Мінска ў Вільнюс, заставаўся беларускім універсітэтам і каб яго ўзначальваў беларус. Але, як бачым, выніку гэтыя спробы не далі. Пытанне аб тым, каб у гэтай навучальнай установе ў эміграцыі беларушчына была ў пашане, не здымаецца з парадку дня.

КАМЕНТАРЫЙ

## "Поліка не хацеў ніхто"

Звольнены з ЕГУ кандыдат філасофскіх навук **Максім Жбанкоў** лічыць прызначэнне Дэвіда Поліка праявай агоніі, а самі выбары называе фарсам.

*«Гэты выбар – калапс топ-менеджменту ўніверсітэта, апошні цвік у труну праекта",* – сказаў Максім Жбанкоў.

Нагадаем, што з ім, а таксама яшчэ з двума дзясяткамі беларускіх выкладчыкаў у 2014 годзе кіраўніцтва ЕГУ не працягнула кантракт.

Жбанкоў характарызуе Дэвіда Поліка як чалавека, які *«не здольны вырашыць аніводнай праблемы і сам з'яўляецца праблемай».*

*«Наколькі я ведаю, Поліка не хацеў ніхто – ні донары, ні выкладчыкі, ні студэнты,* – расказаў Максім Жбанкоў. – *Тым больш не хацела грамадзянская супольнасць Беларусі. Тое, што насупраць усім гэтым крытычным меркаванням Полік усё ж прайшоў, дэманструе, як робяцца справы ў ЕГУ".*

КАДРЫ

## Як пенсіянер Канстанцін Мартынецкі стаў першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта

Варта заўважыць, што раней найчасцей першым намеснікам у Адміністрацыі прэзідэнта станавіўся чалавек, неяк звязаны з ідэалогіяй. Сёння за ідэалогію ў Адміністрацыі адказвае Ігар Бузоўскі. Праўда, ён яшчэ даволі малады.

Што тычыцца Мартынецкага, то гэты чалавек абсалютна непублічны. За доўгія гады працы немагчыма знайсці ніводнага інтэрв'ю гэтага чыноўніка.

Вядома, што Канстанцін Мартынецкі нарадзіўся ў 1955 годзе на самай поўначы Беларусі, у Гарадку Віцебскай вобласці. Пасля школы працаваў грузчыкам, а потым пайшоў на службу ў войска.

Мартынецкі скончыў Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці (1981). Мяркуючы па біяграфіі – завочна. Бо ў гэты час ён ужо працаваў у кавальскім цэху МАЗа. Адразу па атрыманні вышэйшай адукацыі Мартынецкага забралі малодшым навуковым супрацоўнікам Беларускага навукова-даследчага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і тэхніка-эканамічных даследаванняў Дзяржплана БССР.

Была ў біяграфіі Мартынецкага і старонка работы ў кампартыі. Нават болей за тое. Цэлыя чатыры гады ён быў загадчыкам прамыслова-транспартнага аддзела Маскоўскага раённага камітэта КПБ Мінска.

У 31-гадовым узросце Мартынецкі перайшоў на работу ў Мінгарвыканкам начальнікам упраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва.

Ад часоў незалежнасці Канстанцін Мартынецкі трапіў у апарат СНД. Да 2000 года ён быў начальнікам адміністрацыйна-гаспадарчага ўпраўлення, кіраўніком спраў Выканаўчага Сакратарыята СНД. Калі казаць груба, то такі чалавек выконвае функцыі «завхоза».

Пасля гэтага Мартынецкі перайшоў на работу ў Апарат Савета міністраў, дзе і прабыў амаль 15 гадоў.

Якія толькі пасады ён там не мяняў: першы намеснік начальніка ўпраўлення па справах дзяржаўных органаў, першы намеснік начальніка ўпраўлення па ўзаемадзеянні з рэспубліканскімі і мясцовымі органамі ўлады і дзяржаўнага кіравання, начальнік галоўнага ўпраўлення па справах дзяржаўных органаў, начальнік упраўлення па справах дзяржаўных органаў Апарату Савета міністраў Рэспублікі Беларусь.

Нядоўгі перыяд ён быў кіраўніком сакратарыята прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага.

Урэшце, у 2007 годзе ён быў прызначаны кіраўніком Апарату Савета міністраў. Гэта адбылося пасля таго, як папярэдняга кіраўніка апарату Валерыя Казакевіча прызначылі старшынёй канцэрна «Белнафтахім».

У снежні 2014-га Канстанціна Мартынецкага на пасадзе замяніў былы пасол Беларусі ва Узбекістане Ігар Сокал. Можна было думаць, што Мартынецкі сыдзе на адпачынак, бо яму ўжо 60 гадоў, але якраз у гэты час ён атрымаў прызначэнне на самую высокую пасаду ў сваёй кар'еры.

**Зміцер ПАНКАВЕЦ, nn.by**

АБ ЧЫМ ГАВОРАЦЬ...

## 2 красавіка Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства». У народзе яго назвалі «дэкрэтам аб дармаедах»

| | |
|---|---|
| **Хто абавязаны плаціць падатак за "дармаедства"** | Грамадзяне Беларусі і асобы з відам на жыхарства працаздольнага ўзросту (18–55 гадоў для жанчын, 18–60 для мужчын), хто працаваў на працягу года менш за 183 дні. |
| **Велічыня падатку** | 3,6 мільёна рублёў. |
| **З якой даты** | З 1 студзеня 2015 года. |
| **Хто яшчэ, згодна з дэкрэтам, падпадае пад катэгорыю "дармаедаў" і павінен плаціць падатак** | Асобы, якія маюць неафіцыйны даход, але не плацяць абавязковыя падаткі.<br>Студэнты-завочнікі, калі яны нідзе афіцыйна не працуюць.<br>Іпэшнікі і рамеснікі, якія не вядуць ніякай дзейнасці і не плацяць абавязковыя падаткі, або працавалі, але заплацілі падатак менш за 20 базавых велічынь.<br>Дачнікі, якія нідзе не працуюць, а жывуць з ураджаю. |
| **Хто не лічыцца "дармаедам"** | Непаўналетнія (калі 18 споўніцца сёлета, то можна не працаваць да канца года).<br>Студэнты дзённай формы навучання.<br>Беспрацоўныя, якія стаяць на ўліку ў службе занятасці.<br>Уладальнікі аграсядзіб, якія афіцыйна займаюцца аграэкатурызмам (гэта павінен пацвердзіць мясцовы выканкам) і плацяць падаткі.<br>Жыхары вёскі і іншых населеных пунктаў, якія маюць надзел і займаюцца сельскай гаспадаркай. Гэты факт павінен пацвердзіць сельсавет.<br>Жанчыны або мужчыны, якія гадуюць дзяцей да 7 гадоў ці дзяцей-інвалідаў да 18 гадоў.<br>Тыя, хто выконвае работы па грамадзянска-прававых дагаворах (праўда, гэтыя работы сумарна павінны «пацягнуць» на 70 базавых велічынь – 12,6 мільёна у год).<br>Прадстаўнікі творчых прафесій (мастакі, пісьменнікі, дызайнеры і інш.). Але яны абавязкова павінны быць сябрамі адпаведных творчых саюзаў альбо мець прафесійны сертыфікат.<br>Уладальнікі кватэр, якія афіцыйна здаюць сваё жыллё і плацяць з гэтага падатак.<br>Хворыя, якія знаходзяцца на бальнічным.<br>Асуджаныя, якія адбываюць пакаранне ў турме, ЛПП ці калоніі больш за 183 дні.<br>Тыя, хто ў гэтым годзе пойдзе ў армію.<br>Інваліды незалежна ад групы або тыя, з каго сёлета інваліднасць знялі.<br>А таксама недзеяздольныя. |

Адсочваць і збіраць грошы з дармаедаў будуць падатковыя органы. За нявыплату збору ці няпоўную выплату будуць штрафаваць – ад 2 да 4 базавых велічынь. Прадугледжаны і адміністрацыйны арышт.

Ну а як плаціць падатак, растлумачыла міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна. Паводле яе слоў, выплаціць збор можна будзе самастойна. Для гэтага ў перыяд з 1 жніўня гэтага года і не пазней 31 мая 2016 года неабходна паведаміць у падатковы орган па месцы сваёй рэгістрацыі аб няўдзеле ў фінансаванні дзяржаўных расходаў і выплаціць збор не пазней за 1 ліпеня 2016 года. "У гэтым выпадку сума збору памяншаецца на 10%", – адзначыла міністр.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

## Марыяна Шчоткіна абяцае "дармаедам"...



Міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяна Шчоткіна паабяцала гэтак званым "дармаедам" праблемы з выездам за мяжу – калі яны не будуць плаціць спецыяльныя штрафы.

Паводле слоў Марыяны Шчоткінай, "дармаедаў" будуць вылічваць шляхам складання баз дадзеных. Спісы людзей, якія не працуюць без уважлівай прычыны, будуць затым перадавацца ў падатковыя органы. Пры гэтым непрацуючы чалавек, які жыве з нейкіх прыбыткаў і плаціць з іх падаткі не меней як 20 базавых велічынь штогод, ужо не будзе лічыцца "сацыяльным утрыманцам".

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Как не подорвать здоровье на даче

Скоро дачный сезон. Для многих белорусов это не только возможность отдохнуть на свежем воздухе, но и необходимость работать на садоводческом участке. Как выиграть битву за урожай и не навредить собственному здоровью?

**Чем опасна «поза дачника»?**
**Как бороться с высоким давлением?**
**Что делать, если повышен холестерин?**
**Правда ли, что низкое давление не менее опасно, чем высокое?**

На эти и другие вопросы ответят заведующая терапевтическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ» **Людмила Андреевна ГУЛЕВИЧ** и врач-терапевт высшей категории **Ирина Степановна ВИНОГРАДОВА.**



**Ирина Степановна ВИНОГРАДОВА.**



**Людмила Андреевна ГУЛЕВИЧ.**

Звоните **14 апреля с 15.30 до 17.00** по телефону **328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой «Прямая линия».

НАДВОР'Е

## Цяпло вяртаецца

У чацвер ноччу ў асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, днём пераважна без ападкаў. Месцамі па ўсходзе ўзмацненне ветру парывамі да 15–18 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -3...+3°С, днём пацяплее па паўднёвым захадзе да +14°С.

Пачынаючы з пятніцы пачне дамінаваць антыцыклон і разам з паўднёвымі вятрамі пачне вяртацца больш цёплае і камфортнае надвор'е.

У пятніцу пераважна без ападкаў, толькі па паўночным усходзе краіны кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -3...+3°С, а днём слупок тэрмометра дацягнецца да +8...+14°С, па паўднёвым захадзе да +17°С.

Выхадныя таксама абяцаюць быць цёплымі і без істотных ападкаў.

РЕАКЦИЯ БРЮССЕЛЯ

## Алексис Ципрас может обжечься

В преддверии поездки в Москву греческий премьер Алексис Ципрас назвал санкции ЕС против России «дорогой, ведущей в никуда». Он заявил, что выступает против продления санкций, срок действия которых истекает в конце июня.

Демонстративная близость партии Ципраса СИРИЗА к президенту России Владимиру Путину вызывает беспокойство у брюссельских чиновников. Может ли Греция и вправду отклониться от единого внешнеполитического курса ЕС, чтобы добиться ответных экономических уступок со стороны России? «Членство в ЕС основано на надежности и доверии, а не на жульничестве. Тот, кто играет с огнем и ищет помощи в России, может обжечься», – предупреждает глава группы немецких консервативных партий ХДС/ХСС в Европарламенте **Герберт РОЙЛЬ.**

**Антон ДРАБОВИЧ.**

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Горькая пилюля

За последние две недели читатели оборвали редакционный телефон: что происходит, почему из аптек исчезают импортные препараты? Возмущались, что нужно объехать полгорода, чтобы купить «Хофитол» или «Супрастин». Один звонивший почти кричал в трубку: «Вы только подумайте! Пользовался глазной мазью, она исчезла из аптек, а провизор сказала: и не ищите, срок регистрации препарата в Беларуси истек, и фирма-поставщик продлевать лицензию не будет».

Все звонившие требовали: пишите об этом, поднимайте тему, нас же хотят посадить на отечественные лекарства, в качестве которых мы сомневаемся, нас лишают права выбирать, чем лечиться. Именно требовали: вы газета, вы должны, вы обязаны и т.д.

Что может сделать журналист в таком случае? Как говорится, писать и еще раз писать. Хотя о ситуации, возникшей на рынке лекарств, «Народная Воля» публиковала множество материалов. Информировала о планах наших властей переориентировать фармацевтический рынок страны в пользу отечественных препаратов. Сегодня, кажется, уже все знают, что в белорусских больницах лечат в основном белорусскими препаратами, импортные применяются только в том случае, если нет белорусского аналога. Врачам в поликлиниках официально рекомендовано, выписывая рецепт, отдавать преимущество отечественным таблеткам и мазям. Установлен даже контроль за продвижением белорусских лекарств в аптеках, разработаны механизмы поощрения тех, кто реализует больше отечественных таблеток. А недавно Минздрав заявил о планах ввести в практику совещания, на которых постоянно будут оценивать динамику роста продаж белорусских лекарств в государственных и частных (!) аптеках. Проще говоря, за продажей лекарств установят административный контроль.

В общем, не вчера и не сегодня стало известно о планах властей увеличить долю отечественных препаратов и довести к концу этого года выручку от них до 50% от общего объема продаваемых в стране лекарств. Эксперты давно предупреждали, что правительственные планы могут обернуться тем, что наши лекарства вытеснят импортные аналоги. Так что голосить сегодня и требовать от журналистов независимых изданий «призвать чиновников к ответу» не совсем правильно.

Но народ возмущен, обеспокоен. Тем более что в интернете появилась информация о том, что дистрибьюторам настойчиво рекомендовано оптимизировать – проще говоря, сократить – поставку в Беларусь тех лекарств, которые в достаточном объеме производятся у нас. Звучат даже заявления, что, мол, зарубежным компаниям будут отказывать в регистрации препарата, если у нас выпускается аналог. Чиновники Минздрава эти слухи, конечно же, опровергают: такого быть не может, это противоречит законодательству, а отсутствие каких-то лекарств в аптеках – явление временное. Но временное затянулось, полки аптек оскудели, народ забеспокоился.

Не хочу судить о качестве белорусских медпрепаратов. Все же в отрасль вложено немало средств, модернизированы предприятия, отечественные лекарства сходят с современных конвейеров и имеют главное преимущество – низкие цены. И лично я не против, чтобы аптечные прилавки пестрили большим ассортиментом дешевых белорусских препаратов. Но я за то, чтобы соседствовали они с импортными аналогами, чтобы человек сам решал, на каком из них остановить свой выбор. И чтобы врач, выписывая рецепт, думал не только о минздравовских «указявках», но и о том, насколько эффективным будет лечение.

Вообще, к врачам лично у меня накопилось много вопросов. Немало есть примеров, когда они советуют (шепотом) пациентам покупать импортное лекарство, потому что уверены в его эффективности, но рецепт выписывают на белорусское. Когда анонимно рассказывают журналистам, что некоторые белорусские лекарства не такие уж и хорошие, и дело даже не в том, что практически все они дженерики – аналоги известных зарубежных лекарств, но и потому, что субстанции, которые используются для их производства, – тоже не оригинальные, тоже дженереки из Китая и Индии. И почему бы Беларуси, которая взяла курс на импортозамещение в фармакологии, не пойти, например, по пути Канады, которая тратит деньги не на импортные лекарства, а на выпуск собственных дженериков, но сырье покупает у компаний, которые создали этот препарат? То есть производят, по сути, оригинальное лекарство, но дешевле «первоисточника» на 30 процентов». Но все эти рассуждения, повторюсь, анонимные. Почему врачи не говорят об этом вслух, открыто, не инициируют дискуссию? Чего бояться? Увольнения, проблем на занимаемой должности?

Мы, журналисты, конечно, напишем, что кое-где случились перебои с импортными лекарствами, что население опасается остаться без привычного, условно говоря, «Кетонала» или «Валокордина», выскажем мнение, что вряд ли монополизация рынка приведет к улучшению качества белорусских лекарств. Но на решения и действия властей в вопросе выбора, чем нам лечиться, думаю, может повлиять только компетентное мнение врачей. Но они будто забыли клятву Гиппократа, согласно которой врач должен руководствоваться только одним соображением: принести максимально возможную пользу пациенту.

